*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2020, № 5(51). Красавік

# Як у Слоніме затрымалі пасланца караля Швецыі



*Кадр з мастацкага фільма Ежы Гофмана “Патоп”*

Гэтае здарэнне адбылося ў нашым горадзе вясной 1657 года. Трэці год, як пачалася вайна Рэчы Паспалітай (аб’яднанай дзяржавы Вялікага княства Літоўскага і Польшчы) з Маскоўскай дзяржавай. У гісторыі яна вядома як “крывавы патоп”. Маскоўцы акупавалі значную частку ВКЛ разам са сталіцай Вільняй. Супраць Рэчы Паспалітай пачала агрэсію Швецыя, якая адначасова апынулася ў стане вайны і з Масквой. У той сітуацыі ў 1655 годзе вялікі гетман літоўскі Януш Радзівіл падпісаў унію ВКЛ са Швецыяй. Але адбыўся раскол эліты — значная яе частка не хацела разрыву з Польшчай на карысць шведаў.

У 1656-м праект уніі са Швецыяй быў пахаваны, а вялікім гетманам літоўскім замест верагодна атручанага Януша Радзівіла стаў Павел Сапега. База сабранага ім войска ВКЛ была на неакупаваных Падляшшы і Берасцейшчыне. Сапега падтрымліваў караля Рэчы Паспалітай Яна Казіміра ў яго вайне супраць шведаў і чакаў, калі настане час для вызвалення земляў ВКЛ ад маскоўцаў. Збіранню сіл спрыяла падпісанае ў лістападзе 1656 года замірэнне з Маскоўскай дзяржавай.

Што ж тады адбывалася са Слонімам? Маскоўскія войскі яго разрабавалі і часткова спалілі ў верасні 1655 года. Большасць жыхароў пахавалася па лясах, а тых, хто застаўся, акупанты пазабівалі.[1] Калі маскоўцы сышлі, людзі вярнуліся ў горад. Праз два месяцы акупанты зноў праходзілі праз Слонім і пакінулі невялікую залогу (гарнізон), якая была яшчэ і ў наступным годзе. Але пасля падпісання замірэння найхутчэй яе адклікалі — у горадзе не было ўмацаванняў і трымаць тут войска не было сэнсу. Ды і не хапала ў акупантаў войскаў, каб паўсюль паставіць свае гарнізоны. А яшчэ іх трэба было пракарміць. Маскоўцы са Слоніма восенню 1656 года пачалі спусташаць шляхецкія фальваркі ў наваколлі ў пошуках збожжа.[2] Парабавалі і сышлі на ўсход ці на поўнач.

Так што жылі слонімцы ў пачатку 1657 года фактычна ў нейтральнай паласе. У суседніх рэгіёнах былі маскоўскія войскі, а на Берасцейшчыне — войскі ВКЛ. А ў Польшчы працягвалася вайна са шведамі. Кожны з бакоў шукаў саюзнікаў, спрабаваў аслабіць праціўніка.

*Працяг на ст. 3*

ХРОНІКА

# У Слоніме стала больш жыхароў

Нацыянальны статыстычны камітэт Беларусі ў красавіку апублікаваў бюлетэнь з папярэднімі данымі пра колькасць насельніцтва на 1 студзеня 2020 года. З іх вынікае, што ў Слоніме жыло 50,1 тысячы чалавек, у раёне — 13,7 тысячы. За год да гэтага лічбы былі наступныя: 49,3 тысячы і 14,3 тысячы. Белстат падкрэслівае, што сёлетнія лічбы з'явіліся з улікам вынікаў перапісу насельніцтва мінулага года. Цікава, што папярэднія вынікі перапісу ў лістападзе 2019-га публікаваў "Слонімскі веснік": 49,3 тысячы ў горадзе і 14,4 тысячы ў раёне. Калі верыць гэтым лічбам, атрымліваецца, што чалавек 700 з'ехалі з вёсак у Слонім. Відаць, гэта сапраўды яшчэ не дакладныя звесткі.



*Фота: grodnonews.by*

# Жыровіцкія юбілеі

У Жыровічах працягваюцца будаўнічыя працы — мястэчка рыхтуецца да юбілеяў. Аднак з-за сітуацыі з распаўсюдам COVID-19 пакуль цяжка сказаць, ці ўдасца рэалізаваць планы ў поўным аб'ёме. Міністэрства аховы здароўя прагназуе на канец красавіка — на пачатак траўня 2020-га пік захворванняў. У такой сітуацыі ўсе масавыя мерапрыемствы могуць забараніць.







# Новыя кнігі

У славутай серыі "Беларускі кнігазбор" у Мінску выйшлі "Выбраныя творы" нашага земляка, паэта, навукоўца Міколы Арочкі (1930 — 2013). У кнізе змешчаны яго вершы (некаторыя апублікаваны ўпершыню), артыкулы розных гадоў. Свае апошнія гады Арочка пражыў у Вецявічах.

Слонімская арганізацыя Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны выдала ў Гродне зборнік "Душа роднай мовы". Такім чынам былі адзначаны 30-я ўгодкі з дня яе ўтварэння. Кнігу склалі вершы слонімскіх паэтаў.

Сяргей Чыгрын выдаў кнігу "Слонімскі драматычны тэатр". Яе выхад прымеркаваны да 30-годдзя гэтай установы. У кнізе распавядаецца больш шырэйшая за акрэслены перыяд гісторыя тэатральнага мастацтва на слонімскай зямлі.

# Як у Слоніме затрымалі пасланца караля Швецыі

*Працяг, пачатак на ст.1.*

25 лютага маскоўскі ваявода ў Гродне Багдан Апрэлеў даведаўся, што кароль Швецыі Карл Х Густаў накіраваў пасла з тайнай місіяй да ўкраінскага гетмана Багдана Хмяльніцкага. Хмяльніцкі ў 1654-м арганізаваў далучэнне ўкраінскіх земляў да Маскоўскай дзяржавы. Але хутка расчараваўся, пачаў весці перамовы са шведамі (супрацоўніцтва прапаноўвалі і палякі). Багдан Хмяльніцкі быў незадаволены замірэннем Масквы з Варшавай. У канцы 1656-га паслы Хмяльніцкага падпісалі сакрэтную дамову са Швецыяй, Трансільваніяй і Брандэнбургам. Новая дамова была заключана ў студзені 1657 года. Яна прадугледжвала падзел Рэчы Паспалітай паміж Швецыяй, трансільванскім князем Ракацы і Хмяльніцкім, які мусіў стварыць незалежную ўкраінскую дзяржаву.[3] Трансільванскае войска неадкладна ўварвалася ў Польшчу, а на дапамогу яму былі пасланыя 10-12 тысяч казакоў. І Масква пра гэта спачатку нічога не ведала.

І вось з'явіўся шведскі пасол, які з Прусіі дабраўся праз ВКЛ ва Украіну. Відаць, справа была тэрміновая, калі яго адправілі ў небяспечную вандроўку кароткім шляхам.

*"І як той пасланец шведскага караля пайшоў назад* [у Прусію] *ад гетмана Хмяльніцкага, і быў у Слуцку,* — пісаў у справаздачы ў Маскву ваявода з Гродна. — *…Я, даведаўшыся пра таго шведскага пасланца, выдаў строгі загад. І па ўсіх заставах па ўсім Гродзенскім павеце, і ў Лідскі, і ў Ваўкавыскі паветы да палкоўнікаў і да шляхты пісаў, каб таго пасланца да шведаў у Прусы не прапусціць;*


АКТЫ
МОСКОВСКАГО ГОСУДАРСТВА,
ИЗДАННЫЕ ИМПЕРАТОРСКОЮ АКАДЕМІЕЮ НАУКЪ
Н. А. ПОПОВА,
ТОМЪ II.
РАЗРЯДНЫЙ ПРИКАЗЪ.
МОСКОВСКІЙ СТОЛЪ.
1635—1659.
САНКТПЕТЕРБУРГЪ. 1894.

*і дзе ён, пасланец, у якім-небудзь павеце з'явіцца, тут яго затрымаць і даставіць у Гродна".* [4]

Але шведскі пасланец не дабраўся ні да Гродна, ні да Ваўкавыска. Са Слуцка ён прыехаў дзесьці ў пачатку сакавіка 1657 года ў Слонім і тут яго затрымалі. Са справаздачы Багдана Апрэлева не зусім зразумела, ці дзейнічалі слонімцы самастойна, ці ўсё ж і яны атрымалі вестку пра пасла, якога трэба затрымаць. Калі б у горадзе была маскоўская залога, затрыманага адправілі б у Гродна. А слонімцы забралі ў яго лісты ад Багдана Хмяльніцкага каралю Швецыі Карлу Х Густаву. Пра тое, што было далей, піша Апрэлеў: *"І таго пасланца, затрыманага, і з лістамі павезлі ў Брэст да гетмана Сапегі, а з лістоў… копіі… прыслалі да мяне ў Гродна".*[5]

Такім чынам нашы землякі пераправілі "здабычу" не маскоўскім акупантам, а войскам ВКЛ пад Брэст. Таксама незразумела, адкуль атрымаў маскоўскі ваявода копіі лістоў — са Слоніма ці ўжо з Брэста. Іх ён тэрмінова адправіў у Маскву. Ды яшчэ і прыпісаў, што пачалася агітацыя за трансільванскага князя Ракацы ў якасці польскага караля і вялікага князя літоўскага. Багдан Апрэлеў прасіў прысланць "на мяжу" маскоўскія войскі, бо баяўся паўстання шляхты. У Маскве яго справаздачу атрымалі 24 сакавіка 1657 года.

Тым часам кароль Рэчы Паспалітай Ян Казімір паскардзіўся маскоўскаму цару Аляксею Міхайлавічу, што яго падуладны Хмяльніцкі парушае ўмовы замірэння. З Масквы тэрмінова выслалі паслоў да ўкраінскага гетмана, і таму давялося апраўдвацца, адклікаць сваіх казакоў з Польшчы. Жыць яму засталося некалькі месяцаў. Багдан Хмяльніцкі нічога ўжо не змог змяніць — частка Украіны засталася ў складзе Маскоўскай дзяржавы, а Рэч Паспалітая знайшла саюзнікаў і вытрымала вайну на некалькі франтоў.

Слонім зноў займаўся маскоўскімі войскамі. Але 24 чэрвеня 1660 года яго вызвалілі войскі Рэчы Паспалітай, якім дапамагалі слонімскія паўстанцы. Акупацыя скончылася.

●Генадзь Гурскі

*[1] Супрун В. Дзеі над Шчарай (З гісторыі зямлі Слонімскай). — Слонім, 2000. С. 49.*

*[2] Aleksandrowicz B. Z przeszłości Słonima i ziemi słonimskiej. — Słonim, 1935. S. 13-14.*

*[3] Котлярчук А. Швэды ў гісторыі й культуры беларусаў. — Мінск, 2002. С. 85.*

*[4] Акты Московскаго государства, изданные императорскою Академіею наукъ. Томъ II. Разрядный приказъ. Московскій столъ. 1635 — 1659. — Санкт-Петербург, 1894. С. 565.*

*[5] Тамсама.*

# Слонімскія краязнаўцы ў 1928 годзе

У міжваенны час у Слоніме быў моцны краязнаўчы рух. Яго галоўнай асобай з’яўляўся Язэп Стаброўскі (1870 — 1968), краязнавец, археолаг, калекцыянер. Заснаваны ім краязнаўчы музей быў і застаецца гонарам слонімцаў.

У 1924 годзе Стаброўскі заснаваў Слонімскае этнаграфічна-археалагічнае таварыства, якое і ўзначальваў. Вакол яго згуртаваліся мясцовыя краязнаўчыя кадры. Даследчык Васіль Герасімчык мяркуе, што таварыства спыніла дзейнасць у 1928-м, калі ў горадзе стварылася філія Польскага краязнаўчага таварыства. Да новай структуры далучыліся сябры СЭАТ, у тым ліку і Стаброўскі.[1]

Але Язэпа Стаброўскага ў 1928 годзе не было нават сярод членаў слонімскага аддзела ПКТ. Калі параўноўваць спісы заснавальнікаў двух структур, то ў абодвух прысутнічае толькі адзін чалавек — Віктар Клімкевіч. Гэта быў чыноўнік староства, краязнаўца і журналіст. Не хочацца думаць, што быў здзейснены “пераварот” і Стаброўскага адсунулі ад кіраўніцтва мясцовым краязнаўчым рухам. Відаць, з нейкіх прычын ён далучыўся да дзейнасці філіі Польскага краязнаўчага таварыства пазней. Вядома, што ўжо ў 1929-м ён удзельнічаў у першым краязнаўчым кангрэсе ў Познані.[2]

Арганізацыйны сход слонімскай філіі адбыўся 5 чэрвеня 1928-га з ініцыятывы старасты Уладзіслава Гэншаля і натарыуса Мечыслава-Эміля Пятроўскага. У зале Народнага дома сабраліся 43 чалавекі. Было абрана кіраўніцтва ў наступным складзе: старшыня — Мечыслаў Пятроўскі, намеснік старшыні — 



KRONIKA SŁONIMSKA

Zorganizowanie Oddziału P. T. K. Słonim

Zawdzięczając inicjatywie p. starosty Henszela i p. rejenta Mieczysława-Emila Piotrowskiego, w dniu 5 b. m. w sali Domu Ludowego w Słonimie miało miejsce pierwsze organizacyjne zebranie Oddziału Polskiego T-wa Krajoznawczego, na którem zebrani w ilości 43 osób, po wysłuchaniu przemówienia wyżej wymienionych, jednogłośnie postanowili założyć w Słonimie Oddział PTK i dokonali którem uchwalono zorganizowania w czasie najkrótszym sekcję fotograficzną, zadaniem której będzie nietylko fotografowanie godnych uwagi z punktu widzenia krajoznawczego objektów, lecz także i szkolenie członków Oddziału — amatorów w sztuce fotografowania i w tym celu odbyła się konferencja z p. I. Łukaszewiczem, który ma zająć się zorganizowaniem i szkoleniem tej sekcji. Według posiadanych

“камісар аховы лясоў” Мечыслаў Жэпчыньскі, сакратар — Віктар Клімкевіч, скарбнік — Алена Глёмбска. Таксама ў склад кіраўніцтва былі абраны педагог з дзяржаўнай гімназіі Тадэвуш Тырка, камандзір 79-га пяхотнага палка падпалкоўнік Мар’ян Туркоўскі, педагог Ядвіга Вычалкоўска, доктар Моўша Эпштэйн, педагог Антоні Дукальскі, бурмістр Слоніма Уладзімір Плябаньскі, дырэктар яўрэйскай гімназіі Мечыслаў Тэльнер. Ужо на наступны дзень




адбыўся сход кіраўніцтва, на якім было прынята рашэнне пра стварэнне фатаграфічнай секцыі. Яе ўдзельнікі збіраліся не толькі рабіць здымкі вартых увагі аб’ектаў, але і вучыцца фотасправе. У якасці інструктара выступаў нехта І. Лукашэвіч.[3]

З інфармацыі, змешчанай у варшаўскім краязнаўчым зборніку, вынікае, што ў слонімскім аддзеле Польскага краязнаўчага таварыства налічвалася 57 членаў. Вось іх спіс:

Айзенштад Абэ
Бэтке Рышард
Бах Юзаф
Хмялеўскі Казімір
Чэрвіньскі Станіслаў
Чэрванкова Марыя
Дамброўскі Антоні
Даўнаровіч А.
Данэцкі Адам
Дукальскі Антоні
Далецка Ванда
Эпштэйн Моўша
Фурсевічуўна Марыя
Глёмбска Алена
Глёмбскі Зыгмунт
Гутоўскі Станіслаў
Гадлеўскі Юзаф
Гэншаль Уладзіслаў
Гільдэбранд Яніна

Гэрубовіч Вацлаў
Гэрубовічава Галіна
Ястжэбскі Чэслаў
Юрэвіч Цэзары
Елінэк Уладзімір
Касцельскі Уладзімір
Каралько Стэфан
Кіслы Аляксандр
Клімкевіч Віктар
Кжыжакуўна Гізэля
Красоўскі Юзаф
Літвіновічава Галіна
Любіньскі Мечыслаў
Маліноўскі Я. (ці Ю.)
Масціцкі Казімір
Міхальскі Казімір
Маліноўскі Антоні
Нітэцка Зоф'я
Плоха Станіслаў
Петранік Казімір
Плябаньскі Уладзімір
Пухачэўскі Аляксандр
Пташнікаў Антоні
Пятроўскі Мечыслаў
Пятроўска Рамуальда
Развадоўскі Мікалай
Жэпчыньскі Мечыслаў
Шэгідзевіч Ібрагім
Шрэйбер (Шрайбер) Ян
Самасюкуўна Раіса
Станішэўскі Тадэвуш
Тэльнэрова
Туркоўскі Мар'ян
Тэльнер Мечыслаў
Віршыла Тадэвуш
Вышалкоўска Ядвіга
Вайнштэйн Мойша
Заблоцкі Мойша[4]

Офіс знаходзіўся ў Слоніме па адрасе вуліца Касцюшкі (цяпер — Маякоўскага), 7. Гэта было прыватнае памяшканне Пятроўскага. Вядома, што бюджэт структуры ў 1928 годзе складаў каля 430 злотых. Было праведзена 8 пасяджэнняў, прачытана 5 дакладаў для тысячы ўдзельнікаў, здзейснены 3 вандроўкі з 75 удзельнікамі. Было ініцыявана стварэнне маладзёжных краязнаўчых кружкоў у мясцовых навучальных установах.


*Язэп Стаброўскі (крайні злева ў другім радзе) на краязнаўчым кангрэсе, 1929 год. З кнігі "Studia i materiały z dziejów krajoznawstwa polskiego PTTK..."*

[5] Гаворка пра гэта ішла на пасяджэнні кіраўніцтва аддзела і прадстаўнікоў навучальных устаноў 15 верасня 1928-га. З кружкамі мусіў быць сталы кантакт.[6]

15 кастрычніка 1928 года ў Народным доме прайшоў агульны сход слонімскага аддзелу. На ім абралі новы склад кіраўніцтва. Старшынём стаў той жа Мечыслаў Пятроўскі. Намеснік у яго быў новы — Мечыслаў Тэльнер. Ва "ўрад" таксама ўвайшлі Алена Глёмбска, падпалкоўнік Мар'ян Туркоўскі, капітан Станіслаў Чэрвіньскі, Мечыслаў Жэпчыньскі, Тадэвуш Віршыла, Ядвіга Вышалкоўска, Станіслаў Плоха, Віктар Клімкевіч. У рэвізійную камісію ўвайшлі Уладзімір Плябаньскі, Ян Шрайбэр і Галіна Літвіновічава (Літвін ці Літвіновіч).[7]

У пачатку лістапада 1928 года адбылося пасяджэнне кіраўніцтва аддзела разам з прадстаўнікамі мясцовых уладаў, войска і грамадскасці. На ім была ўтворана секцыя па ўпрыгожванні горада Слоніма і захаванні помнікаў мінулага (была прапанова нават стварыць асобную арганізацыю, якая б займалася гэтымі пытаннямі). Паўстала пытанне стварэння музею. Была надзея, што для яго ўдасца атрымаць памяшканне ў будынку старасва (у той час яно займала былы бернардынскі кляштар). Аднак стараста паведаміў, што рамонт будынка, які працягваўся некалькі гадоў, не скончаны, таму для музея месца там няма.[8]

Згаданая секцыя па ўпрыгожванні горада Слоніма і захаванні помнікаў мінулага, відаць, неўзабаве прыняла кароткую назву: секцыя аматараў горада ПКТ Слонім. 1 снежня яна сабрала ў магістраце вядомых мясцовых людзей, прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый. Было прапанавана абмеркаваць пытанне ўсталявання ў горадзе *"знаку вызвалення"* ці *"помніка Незалежнасці"* да 10-годдзя вызвалення Слоніма польскімі войскамі ад бальшавікоў. Быў

# Слонімскія краязнаўцы ў 1928 годзе

*Працяг, пачатак на ст. 4-5*

абраны камітэт з 5 чалавек, які і заняўся арганізацыйнымі пытаннямі. Меркавалася, што да вясны 1929-га давядзецца сабраць вялікую суму — 15-20 тысяч злотых.[9] Гэта быў першы буйны праект слонімскіх краязнаўцаў.

●Сяргей Ёрш

*[1] Герасімчык В. Слонімскае этнаграфічна-археалагічнае таварыства (1924-1928) // Слонімскі край, 2016, № 3. Красавік. С. 12. У гэтай публікацыі аўтарам быў “прыдуманы” скарбнік “Ігнаць Каркозаў”. Насамрэч, гэта мог быць толькі адзін з заснавальнікаў, староста Ігнаці Карказовіч.*

*[2] Orłowska-Rybicka G. Krajoznawstwo na Kresach Wschodnich. “Słonim — splecione losy” // Studia i materiały z dziejów krajoznawstwa polskiego PTTK w roku sześćdziesięciolecia. Tom IV. — Warszawa, 2010. S. 425.*

*[3] Zorganizowanie Oddiału P.T.K. Słonim // Życie Nowogródzkie, 1928, № 123, 11 чэрвеня.*

*[4] Polskie Towarzystwo Krajoznawcze. Rok 1928. — Warszawa, [1929?]. S. 100-101.*

*[5] Тамсама. S. 100.*

*[6] P.T.K. Słonim // Życie Nowogródzkie, 1928, № 223, 18 верасня.*

*[7] Walne zebranie Polskiego T-wa Krajoznawczego Oddzial w Słonime // Życie Nowogródzkie, 1928, № 253, 18 кастрычніка.*

*[8] Z działalności T-wa Krajoznawczego w Słonimie // Życie Nowogródzkie, 1928, № 277, 11 лістапада.*

*[9] Z działalności P.T.K. Słonim // Życie Nowogródzkie, 1928, № 300, 5 снежня.*

СЛОНІМЦЫ Ў СВЕЦЕ

# Кшыштаф Галянкевіч

У пасляваеннай Польшчы выдатную кар’еру навукоўца-хіміка зрабіў наш зямляк Кшыштаф Галянкевіч. Будучы прафесар, доктар габілітаваны (гэта аналаг ступені доктара гістарычных навук у беларускай навуковай сістэме) нарадзіўся ў Слоніме 21 чэрвеня 1931 года. Яго бацька — афіцэр польскага войска Станіслаў Галянкевіч, маці — Марыя Германовіч. Наўрад ці Кшыштаф добра памятаў свой родны горад, бо тут прайшлі толькі яго першыя гады жыцця. Падчас Другой сусветнай вайны сям’я нейкім чынам апынулася ў Заходняй Украіне, дзе шчасліва перажыла нямецкую акупацыю. А ў 1945 годзе Галянкевічы выехалі з СССР у Польшчу.

Як успамінаў Кшыштаф Галянкевіч, па дарозе яго бацька выходзіў на асобных чыгуначных станцыях з цягніка з рэпатрыянтамі, пакуль яму не спадабаўся адзін з гарадоў. Гэта быў старажытны Гнезна ў Вялікапольскім ваяводстве на захадзе Польшчы. Там яны і засталіся.

Пасля сканчэння ліцэю ў Гнезне ў 1951-м, слонімец вучыўся на факультэце матэматыкі, фізікі і хіміі ўніверсітэта імя Адама Міцкевіча ў Познані. Там і застаўся працаваць, зрабіў паспяховую кар’еру навукоўца. Галянкевіч быў прарэктарам універсітэта (у 1972 — 1981 гадах), дырэктарам Інстытута хіміі гэтай навучальнай установы (у 1973 — 1975 гадах), членам Камітэта хімічных навук Польскай акадэміі навук (у 1972 — 1976 гадах). Ёсць вялікі спіс польскіх і амерыканскіх навуковых таварыстваў, членам якіх ён быў. Кшыштаф



Галянкевіч меў міжнародны аўтарытэт, як навуковец. У часы народнай Польшчы ён некалькі разоў быў на працяглых стажыроўках у ЗША, у тым ліку ў Гарвардзе.

На рахунку прафесара Кшыштафа Галянкевіча больш за 150 навуковых прац і публікацый, шматлікія ўзнагароды ад Міністэрства адукацыі і Акадэміі навук Польшчы. Вялікая яго заслуга — падрыхтоўка навуковых кадраў. Пяць яго вучняў сталі прафесарамі ў Польшчы і Злучаных Штатах.

Галянкевіч памёр 26 траўня 2008 года пасля цяжкай хваробы.* У апошнія дзесяцігоддзі жыцця ён меў сур’ёзныя праблемы са здароўем, але дэманстраваў зайздросную сілу духу, займаўся даследаваннямі.

●Генадзь Гурскі

**Апошняя публікацыя пра нашага земляка: Koroniak H. Golankiewicz Krzysztof // Luminarze nauki Uniwersytetu Poznańskiego w latach 1919–2019. — Poznań, 2019. S. 160-163.*

# Вёска Вішава і ваколіцы

*Эмілія і Канстанцін Гнаінскія з невядомай сям’ёй у Вішаве. Гэты і наступныя здымкі з сямейнага альбома Ганны Керсноўскай з Польшчы*

*Заканчэнне, пачатак у №№ 10-12, 2019 г.,*

Канстанціну Ксавер’евічу Гнаінскаму ў Слонімскім павеце належалі маёнткі Вішаў, Чэмярэшнік, Франкаў, Канстанцінаў, Прозараўшчына. У сям’і было трое дзяцей: Алена, Юлія, Канстанцін. Дачка Алена Канстанцінаўна нарадзілася ў 1882 годзе, узяла шлюб з Каралем Керсноўскім і атрымала ад бацькі ў спадчыну фальварак Вішаў і маёнтак Чэмярэшнік. Маці Караля, Алена Булгак, паходзіла з роду вядомага этнографа, фальклярыста, заснавальніка польскай фатаграфіі Яна Булгака. Яго бацька, Валерый Антоній Станіслаў Булгак, даводзіўся родным братам Алене Булгак (Керсноўскай). Такім чынам, муж Алены Гнаінскай, Караль Керсноўскі, і Ян Булгак былі стрыечнымі братамі.



*Эмілія і Канстанцін Гнаінскія з дачкой Аленай у Вішаве*

# Вёска Вішава і ваколіцы

Каля 10 тысяч фотаздымкаў Яна Булгака згарэлі ў 1944 годзе. Ацалелыя асобнікі зберагаюцца ў архівах і бібліятэках Вільні і Варшавы. У фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі захоўваецца невялікая калекцыя работ фотамастака. Магчыма, што некаторыя невядомыя фотаздымкі Яна Булгака сёння знаходзяцца ў сям'і Керсноўскіх. Напэўна, што ён фатаграфаваў і сваю сям'ю. Магчыма, што некаторыя фотаздымкі, якія мне даслала прапраўнучка Канстанціна Гнаінскага Ганна Керсноўская-Тылевіч, маглі быць зроблены Янам Булгаком, бо ён наведваў свайго стрыечнага брата Караля Керсноўскага.

Канстанцін Ксавер'евіч Гнаінскі вельмі любіў сваю малую радзіму і народ, а сваіх дзяцей выхоўваў так, каб яны ўсім сэрцам адчувалі еднасць са сваёй роднай зямлёй, ганарыліся яе гістарычным мінулым і культурнай спадчынай народа. Прадаўжальнікамі справы Канстанціна Гнаінскага былі яго дзеці і ўнукі. Дачка Алена Гнаінская (Керсноўская) у 1920-я гады ўваходзіла ў Слонімскае этнаграфічна-археалагічнае таварыства*, у якім быў і Язэп Стаброўскі. Таварыства займалася этнаграфічным і археалагічным вывучэннем Слонімшчыны.

Сын Алены Гнаінскай Раман Керсноўскі скончыў факультэт філасофіі ў Варшаўскім універсітэце, працаваў гісторыкам у Навагрудку, вывучаў архіўныя матэрыялы па вызваленчым паўстанні 1830 — 1831 гадоў. На жаль, сёння нашчадкі не ведаюць, ці захаваліся яго працы па гісторыі. У 1939 годзе ў першыя дні Другой сусветнай вайны



*Эмілія Гнаінская з дачкой Аленай у Вішаве*



*Баранэса Эмілія фон Грубер, жонка Канстанціна Гнаінскага*

Раман Керсноўскі ўдзельнічаў у абароне Варшавы. 23 верасня ён загінуў у баі. Керсноўскі аддаў загад жаўнерам забраць параненых з поля бою, але з-за моцнага агню праціўніка яны адмовіліся выканаць загад. Тады ён пайшоў адзін. У момант, калі Раман Керсноўскі пераносіў параненага, яго прашыла серыя агню з нямецкага кулямёта. Ён памёр на месцы. Сям'я

ведае дакладны час смерці Керсноўскага, бо ў той момант гадзіннік, праз які прайшлі кулі, спыніўся назаўжды.

...Час імкліва рухаецца наперад, ён не крочыць, а бяжыць, а разам з ім і мы. Але ісці наперад не можам, не азіраючыся назад у мінулае, бо наша будучыня — у захаванні гістарычнай памяці. Пакуль жывыя людзі, будзе жыць беларуская вёска, бо гэта зямля нашых продкаў, месца, якое натхняе нас, дае нам моц, сілы і ўпэўненасць у заўтрашнім дні. Сюды заўсёды вяртаешся ў думках. І мне вельмі б хацелася, каб нашы беларускія вёсачкі са сваёй багатай гісторыяй і культурай не зніклі.

●Святлана Брайчук

**У публікацыі Васіля Герасімчыка яна памылкова называецца Аленай Курсноўскай. Гл.: Герасімчык В. Слонімскае этнаграфічна-археалагічнае таварыства (1924-1928) // Слонімскі край, 2016, № 3. Красавік. С. 11.*



*Канстанцін Гнаінскі з сынам Канстанцінам у Вішаве*



*Алена Гнаінская (Керсноўская) у Варшаве*



*Канстанцін Канстанцінавіч Гнаінскі*





*Ірэна і Раман Керсноўскія. Ірэна была настаўніцай у Слоніме, а пасля — дырэктарам школы. Раман — сын Караля і Алены Керсноўскіх*



*Бацька Яна Булгака Валерый Антоні Станіслаў Булгак з сястрой Барбарай*

*На наступнай старонцы здымкі, зробленыя ў Вішаве летам 1931 года*

# У Слоніме перахоўваўся ліст паўстанца 1863 года

У 1918 годзе ў Варшаве, якая яшчэ была пад нямецкай акупацыяй, выйшла памятная кніга[1], прысвечаная 100-м угодкам з дня смерці нашага славутага земляка Тадэвуша Касцюшкі, нацыянальнага героя Беларусі, Польшчы і ЗША. У ёй былі змешчаны разнастайныя артыкулы, у тым ліку і пра вызваленчае паўстанне 1863-1864 гадоў. Адзін з іх прыцягнуў увагу. Ён мае назву “Ліст, які не дайшоў…”. У тэксце паведамляецца, што нехта Генрык Альшэўскі з Варшавы ў 1914 годзе наведаў Слонім, дзе сустракаўся са сваякамі паўстанца Сержпутоўскага. Высветлілася, што яны перахоўвалі ліст іншага паўстанца 1863 года Тэлесфора Нешакоця (1841 — 1864). Ён быў асуджаны на смерць і напісаў яго ў турме ў Дынабургу (Дзвінску, цяпер — Даўгаўпілс у Латвіі). Нешакоць пакінуў ліст паўстанцу Сержпутоўскаму з просьбай перадаць сваякам. І прыклаў да яго сямейны пярсцёнак. У кнізе паведамляецца, што

*Працяг на ст. 14*



„CZEŚĆ BOHATEROWI"

1817 1917

TADEUSZ KOŚCIUSZKO W MUNDURZE GENERALSKIM.

W SETNĄ ROCZNICĘ ZGONU
*TADEUSZA KOŚCIUSZKI.*

NA DOCHÓD STOWARZYSZENIA UCZESTNIKÓW POWSTANIA Z ROKU 1863.

## List, który nie doszedł...

P. Henryk Olszewski z Warszawie, bawiąc w r. 1914 w Słonimiu w gubernji grodzieńskiej u krewnych powstańca Sierzputowskiego (który z Syberji powrócił do kraju), znalazł przechowywaną ze czcią kartkę, pisaną przez jedną z ofiar zbrodni rządu carskiego.

Kartkę Sierzputowski otrzymał w więzieniu w Dyneburgu od skazanego w r. 1863 na śmierć T. Nieszokocia, wraz z czarnym pierścieniem rogowym z Matką Boską Częstochowską, z prośbą o doręczenie rodzinie. Niestety, Sierzputowski rodziny jego nie odszukał, kartkę zaś przekazał swoim krewnym do przechowania.

Śmiertelny list Niszekocia ogłaszamy niniejszem w nadziei, że może tą drogą, po wielu latach, trafi on do krewnych powstańca.

List ten brzmi:

„Telesfor Nieszokoć urodził się 5 stycznia 1841 r. z ojca Benedykta, matki Józefaty: ukończył w Kownie gimnazjum, w 1862 roku postąpił do uniwersytetu Petersburskiego, gdzie będąc na drugim kursie prawa wziął w skórę za druki śpiewów żmudskich 60 batów w tajnej policji, po uwolnieniu emigrował do Szkoły Genueńskiej—przyjechał razem z Langiewiczem do kraju i był z nim aż do wkroczenia do Galicji, - później był wysłany do W. Augustowskiego — jutro pożegna się z tym światem

Bądźcie zdrowi.

*Telesfor Nieszokoć.*

Powiatu Rosieńskiego,
gub. Kowieńskiej."

# У Слоніме перахоўваўся ліст паўстанца 1863 года

*Працяг, пачатак на ст. 14*

Сержпутоўскі, які перажыў зняволенне ў Сібіры і вярнуўся на радзіму, не змог выканаць просьбу — не знайшоў сваякоў Тэлесфора Нешакоця. Але перадаў ліст сваім сваякам на перахаванне. І яны дзясяткі гадоў яго бераглі, у тым ліку і ў нашым горадзе.[2]

У варшаўскім выданні гэты кароткі ліст быў апублікаваны. У ім Тэлесфор Нешакоць не напісаў нейкіх слоў развітання. Ён паведаміў асноўныя біяграфічныя звесткі пра сябе і што заўтра яго пазбавяць жыцця. “Будзьце здаровыя”, — пажадаў ён. На наш погляд, ліст быў не столькі да сваякоў, колькі да нашчадкаў. Відаць, мужны паўстанец не хацеў, каб яго лёс застаўся невядомы.

Справа ў тым, што ў зняволенні Нешакоць быў пад псеўданімам. Пра гэта яго паплечнікі, якія выехалі з Расійскай імперыі, напісалі яшчэ ў 1864 годзе ў газеце “Ojczyzna”.[3] Яны памылкова падалі датай нараджэння 1842 год (насамрэч, 1841-ы). Тэлесфор Нешакоць паходзіў з дробнай шляхты, нарадзіўся ў Жмудзі. Ён скончыў гімназію ў Коўне (Каўнасе), вучыўся ў Пецярбургу ва ўніверсітэце. Спачатку на фізічна-матэматычным факультэце, пасля — на праўным. Нешакоць прыязджаў у Жмудзь, вёў прапаганду сярод сялян. Трапляў пад арышт, яго збівалі ў тайнай паліцыі. Нейкі час будучы паўстанец працаваў настаўнікам у Аўгустоўскім павеце, друкаваўся ў эміграцкім *“Колоколе”*. У 1862-м ён выехаў за мяжу, жыў у Парыжы. У лютым 1863 года пачалося паўстанне, і Тэлесфор Нешакоць



Zyciorysy zasłużonych w teraźniejszém powstaniu Polaków.

Telesfor Nieszokoć.

Telesfor Nieszokoć, krewny Wincentego, bohatera z pod Grochowa, urodził się 1842 r. na Zmudzi w powiecie Rosieńskim. Pochodził on z owéj drobnéj szlachty, co to swojemi rękami kraje zagon rodzinny, a ojczyznę kocha nad życie. Nasz Telesfor wszakże prócz jednéj miłości ojczyzny, innych przymiotów właściwych tak drobnéj jako i wielkiéj szlachcie, wcale nieposiadał. Rubaszność, powierzchowne jego obejście się, kazało w nim upatrywać raczéj chłopa niż szlachcica. Ztąd to pochodziło, że lud lgnął do niego duszą i ciałem. — Skończywszy gimnazjum w Kownie jakoś w 1859 czy 60 r. udał się do Petersburga na uniwersytet. Początkowo uczęszczał na wydział fizyczno-matematyczny, następnie poświęcił się nauce prawa. Nadszedł rok 1861, rozbudził się naród. Te-



OJCZYZNA.

DZIENNIK POLITYCZNY, LITERACKI I NAUKOWY.

1864. — Lipsk, Piątek, 29 Lipca. — № 75.

вярнуўся на радзіму. Ваяваў. На тэрыторыі сучаснай Літвы сфармаваў свой паўстанцкі аддзел. Ён трапіў у палон у ліпені 1863-га. Нешакоць у той момант быў у сялянскім адзенні і, неапазнаны, назваўся Антонам Будрысам, гаварыў выключна па-жмудску. Быў адпраўлены ў Сібір. Аднак рускія ўлады “Будрыса” нечакана вярнулі і 15 сакавіка 1864 года расстралялі ў Дынабургу. Чаму яму замянілі пакаранне, аўтары публікацыі не ведалі. Сваё сапраўднае прозвішча Нешакоць не назваў, пакаралі смерцю яго як Будрыса.

Вось такая трагічная гісторыя. Аўтары публікацыі 1918 года спадзяваліся, што ліст такім чынам усё ж трапіць да сваякоў паўстанца. Але ці сапраўды яны знайшліся? І які лёс арыгінала ліста, які захоўвалі ў Слоніме? Кім былі слонімскія сваякі Сержпутоўскага? Цікава было б даследаваць гісторыю да канца.

●Сяргей Ёрш

*[1] “Cześć bohaterowi” 1817-1917. W setną rocznicę zgonu Tadeusza Kościuszki. — Warszawa, [1918].*

*[2] Тамсама. S. 59.*

*[3] Telesfor Nieszokoć // Ojczyzna (Lipsk), 1864, № 75, 29 ліпеня.*

# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

*Працяг, пачатак у № 10(20), 2017 г.; № 1(23), № 2(24), № 6(28), № 7(29), 2018 г.; № 5(39), № 7(41), 2019 г.*




Папярэднія часткі нашага нарысу выходзілі на працягу 2017-2019 гадоў. У іх мы распавялі пра слонімскі футбол ад пачатку 1920-х гадоў да 1930-га. Згадалі каманды, якія існавалі, іх гульцоў, суддзяў, вынікі матчаў, турніраў, здарэнні, якія адбываліся. Адсутнасць стабільнай фінансавай базы, можна сказаць, беднасць не дазваляла развівацца мясцовым клубам. У згаданы перыяд існаваў пераважна аматарскі футбол. Пры гэтым у Слоніме, Жыровічах, Альбярціне з'яўляліся цікавыя гульцы і каманды. На жаль, пакуль маем пра іх толькі мінімальную інфармацыю.

## 1930

У папярэдняй частцы гаворка ішла пра футбол у нашым горадзе ў 1930 годзе. Прэса вельмі мала пісала пра матчы таго сезону. Мы згадвалі, што першы футбольны паядынак прайшоў 25 траўня, гулялі слонімскія вайскоўцы і жыровіцкія навучэнцы (апошнія ўпэўнена перамаглі). Аднак удалося знайсці публікацыю пра больш ранні матч. 13 красавіка 1930-га аб'яднаная каманда WKS Słonim і ŻKS Słonim (Вайсковага і яўрэйскага спартыўных клубаў) гуляла з KS Żyrowice (Спартыўны клуб Жыровічы). Жыровіцкая каманда святкавала перамогу — 2:1. Газета "Навагрудскае жыццё" пісала пра вялікую цікаўнасць мясцовых жыхароў да футбольнага паядынку. Вакол "спартыўнага поля за казармамі" (яго называлі "гарнізонным стадыёнам" ці "стадыёнам каля Скробаўскай вуліцы") сабралося каля 750 чалавек[1] (у газеце першая лічба кепска прадрукавалася і яе ўдалося расчытаць толькі пры значным павелічэнні). Такім чынам, футбольны сезон пачаўся ў Слоніме ў сярэдзіне красавіка. Самай моцнай камандай у яго пачатку была KS Żyrowice.



**Słonim**

**Zawody sportowe**

W dn. 13 b. m. połączone drużyny W.K.S. i ŻKS. Słonim p-ko KS. Żyrowice urządziły zawody piłki nożnej. Mecz zakończony został zwycięstwem Żyrowic (2:1).

Na uwagę zasługuje wielkie zainteresowanie się zawodami miejscowego społeczeństwa, obszerne bowiem boisko sportowe za koszarami licznie nawiedziła miejscowa ludność. Około 50 osób przyglądało się zawodom sportowym.

## Гарадскі стадыён

Усе 1920-я гады слонімскія футбалісты гулялі на вайсковым стадыёне. Знаходзіўся ён далёка ад цэнтра горада і, відаць, былі нейкія абмежаванні ў карыстанні ім. А ў горадзе хапала аматараў спорту, асабліва сярод вучнёўскай моладзі. Таму восенню 1928-га і ўзнікла ідэя пабудовы гарадскога стадыёна. Слонім у той час быў пад польскай уладай. Польскія чыноўнікі, многія з якіх былі людзьмі прыезджымі, кампактна жылі ў спецыяльна пабудаваным для іх мікрараёне паміж цяперашнімі вуліцамі Даватара, Карла Маркса, 17 верасня і Шасейнай. Большасць гэтых двухпавярховых будынкаў захавалася. І каля гэтай "калоніі" чыноўнікаў на дзяржаўнай зямлі і быў спраектаваны гарадскі стадыён.[2] У той час бурмістрам Слоніма быў Уладзімір Плябаньскі, таксама чалавек не мясцовы.

Рэалізацыя праекту зацягвалася — у гарадскім бюджэце не хапала грошай. Былі больш важныя праекты — рамонт ці пабудова мастоў, грамадскіх будынкаў, брукаванне і асвятленне вуліц, набыццё абсталявання

*Працяг на ст. 16*

# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

*Працяг, пачатак на ст. 15*

для электрастанцыі ці для пажарных.

Нарэшце справа зрушылася з мёртвай кропкі ў пачатку траўня 1929 года. На пасяджэнне ў старастве Камітэта стадыёна былі запрошаныя прадстаўнікі навучальных устаноў і грамадскіх арганізацый. Прысутнічаў і стараста Уладзіслаў Гэншаль. Узначаліць кіраўніцва прац пагадзіўся нехта Эдмунд Валяўскі. Быў вызначаны дзень, калі на аб’екце будзе працаваць вучнёўская моладзь.[3]

Аднак ішлі месяцы, а стадыён усё яшчэ не быў гатовы. Нават да прыезду ў Слонім прэзідэнта Польшчы ў верасні 1929-га аб’ект не паспелі здаць. У праграме візіту было пазначана наведванне вайсковага спартовага стадыёна, дзе кіраўніка дзяржавы мусілі вітаць школьнікі.[4]



**Realizacja pięknego projektu**

**Słonim przystępuje do budowy Stadjonu Sportowego**

W dn. 4 b. m. odbyło się w Starostwie posiedzenie Komitetu Boiska przy udziale Dyrektorów miejscowych zakładów średnich i kierowników szkół oraz przedstawicieli organizacji społecznych. Na zebraniu tem, które odbyło się pod przewodnictwem Starosty p. Władysława Henszela postanowiono zaproponować objęcie kierownictwa prac na boisku p. Edmundowi Walewskiemu, który propozycję tą przyjął.

Ponadto zapadła uchwała o becnych dyrektorów i kierowników Szkół na urządzenie w poszczególnych zakładach naukowych dnia Święta P. W., w którym to dniu cała młodzież uczęszczająca do danej szkoły odda się pracom nad przygotowaniem boiska.

Obecni na posiedzeniu przedstawiciele miejscowych organizacji przyrzekli również czynne poparcie prac na boisku. W uroczystości tej wezmą udział wszystkie szkoły oraz szereg instytucji społecznych z Powiatowym Komitetem P.W. i W. F. na czele.

Należy żywić nadzieję, że w ten sposób ujęta akcja budowy stadjonu w Słonimie wejdzie na właściwe tory i zostanie w czasie najkrótszym wykonana.

У красавіку 1930 года паведамлялася пра *“ўзнаўленне прац над пабудовай стадыёна”.* Займаўся імі павятовы камітэт дзяржаўнага ведамства па фізкультуры і вайсковай падрыхтоўцы (менавіта да яго адносіўся гэты спартыўны аб’ект).[5] У траўні 1930-га ён сабраўся зноў з удзелам прадстаўнікоў адукацыйных установаў і грамадскіх арганізацый. Пасяджэннем кіраваў камандзір 79-га пяхотнага палка і віцэ-старшыня камітэта палкоўнік М. Туркоўскі. Высветлілася, што *“сціплыя сродкі камітэту не дазвалялі рэалізаваць планы”.* І надзея толькі *“на супольныя высілкі”* мясцовага грамадскага актыву. Ужо ў бліжэйшы тыдзень працы мусілі пачацца і зноў з прыцягненнем школьнай моладзі.[6]

Нягледзячы на тое, што будаўніцтва стадыёна яшчэ не было скончана, ім пачалі карыстацца. У святочны дзень 3 траўня 1930 года там прайшло спартыўнае свята. У яго рамках адбыліся два валейбольныя матчы (жаночых і мужчынскіх каманд) і паядынак



*Слонімскія футбалісты на гарадскім стадыёне, 1930-я гады*

**Słonim**

**Prace nad dalszą budową stadjonu**

Wczoraj odbyło się posiedzenie przedstawicieli organizacyj społecznych (sportowo-wychowawczych) delegatów miejscowych szkół średnich pod przewodnictwem p. płk. M. Turkowskiego d cy 79 p. p. — wiceprzewodniczącego Komitetu W. F. i P.W., na którem delegaci zadeklarowali udział swych

баскетбалістаў. Футбола не было.[7] Падобныя мерапрыемствы, спартыўныя і палітычныя, праводзіліся на новым стадыёне летам і восенню 1930-га. А яго дабудова ці абсталяванне працягвалася і ў наступныя гады. Напрыклад, у 1933 годзе гарадскі стадыён агарадзілі “прыгожай металічнай сеткай” і пабудавалі на ўваходзе “драўляную браму”.[8]

У “СК” друкаваліся здымкі футбольнай і гандбольнай камандаў на новым стадыёне ў Слоніме.[9] А вось добрага фота гарадскога стадыёна пакуль выявіць не ўдалося. Вядома яго апісанне. У цэнтры былі футбольнае поле і валейбольная пляцоўка. Вакол іх — бегавая і веласіпедная дарожкі. Бліжэй да Шасейнай вуліцы — тэнісны корт.[10] Таксама існавала пляцоўка для конных спаборніцтваў.[11]

Найлепшы сезон для Навагрудскага ваяводства

У 1930 годзе Навагрудскае ваяводства (у яго склад уваходзіў Слонім) у футбольным першынстве “клясы А” Віленскай акругі прадстаўлялі дзве вайсковыя каманды — 77рр (77-га пяхотнага палка) з Ліды і 78 рр (78-га пяхотнага палка) з Баранавічаў. Ад Вільні ўдзельнічалі чатыры каманды — 1pp Leg., Ognisko, Lauda, Makabi. Баранавіцкая каманда заняла пятае месца. Польскі даследчык Ян Гаксіньскі піша, што гэта быў найлепшы вынік для каманды з Навагрудскага ваяводства ў міжваенны час.[12]

●Сяргей Ёрш

Працяг у наступным нумары

*[1] Życie Nowogródzkie, 1930, № 90, 16 красавіка.*

*[2] Zycie Nowogródzkie, 1928, № 287, 22 лістапада.*

*[3] Zycie Nowogródzkie, 1929, № 125, 8 траўня.*

*[4] Zycie Nowogródzkie, 1929, №241, 2 верасня.*

*[5] Życie Nowogródzkie, 1930, № 100, 30 красавіка.*

*[6] Życie Nowogródzkie, 1930, № 113, 16 траўня.*

*[7] Życie Nowogródzkie, 1930, № 105, 7 траўня, № 106, 8 траўня.*

*[8] Życie Nowogródzkie, 1933, № 155, 9 чэрвеня.*

*[9] Слонімскі край, 2017, № 10(20). Кастрычнік. С. 1; 2019, № 4(38). Красавік. С. 1.*

*[10] Прокофьевы И., Е. Улица 17-го сентября — символ единения // Слонімскі веснік, 2014, № 109-110, 17 верасня.*

*[11] Прокофьев И. Улица 17-го сентября: единство и толерантность // Слонімскі веснік, 2016, № 109, 17 верасня.*

*[12] Goksiński J. Klubowa historia polskiej piłki nożnej do 1939 roku (tom I: regiony — branże — frekwencja). — Warszawa, 2013. S. 201.*

## СЛОНІМЦЫ Ў СВЕЦЕ

# Марыя Гумоўская



Варшаўскі ўніверсітэт у міжваенны час быў найбольшай вышэйшай навучальнай установай Польшчы. У 1915-1939 гадах у ім вучыліся больш за 57 тысяч хлопцаў і дзяўчат. Першым студэнтам быў Рамуальд Каліноўскі з Варшавы, а апошняй — сланімчанка Марыя Гумоўская. Да выбуху Другой сусветнай вайны 1 верасня 1939-га ва ўніверсітэт паспелі паступіць 92 чалавекі. Апошняй з іх здала дакументы Марыя Гумоўская. Пра яе вядома няшмат. У Слоніме яна нарадзілася ў 1914 годзе, была рыма-каталіцкага веравызнання. Скончыла ў Вільні дзяржаўную жаночую гімназію імя ксяндза Адама Ежы Чартарыскага (верагодна ў гэтым горадзе жылі яе сваякі). Пасля заканчэння вайны на вучобу ва ўніверсітэт Гумоўская ўжо не вярнулася.* Ці выжыла яна? У якой краіне жыла? На жаль пакуль пра яе лёс нічога невядома.

●СЁ

**Dzieje Uniwersytetu Warszawsiego 1915 — 1945. — Warszawa, 2016. S. 114.*

УСПАМІНЫ

# Рэвалюцыйны Слонім



*Працяг, пачатак у № 8-12, 2019 г., № 2-4, 2020 г.*

На наступны дзень я наведаў Кроніка. Ён мяне чакаў. Яго невялікі вузкі пакойчык нагадваў звычайны студэнцкі. Ложак, стол, а на ім шматлікія кнігі і газеты, у тым ліку амаль усе нумары *"Революционной России"*.* У размове з ім я правёў некалькі гадзін. Кронік быў прыродным агітатарам і яго размовы ўспрымаліся лёгка і проста. Мы разбіралі галоўным чынам праграмы сацыялістычных партый: сацыял-дэмакратаў, анархістаў, Польскай сацыялістычнай партыі, сацыялістаў-рэвалюцыянераў, групы "маладых эсэраў" (максімалістаў), якая толькі ўтварылася. Апошняя г. зн. максімалісцкая плынь была вельмі моцная ў Беластоку і адтуль перанесена ў Косава. Мае сустрэчы з Кронікам працягваліся амаль штодня, і я ўсё больш і больш успрымаў праграму, якую ён развіваў. Хутка я паведаміў яму пра свае погляды і выказаў жаданне ўступіць у косаўскую групу максімалістаў, куды мяне прынялі без усялякіх размоў. Гэта было ў канцы снежня 1905 года.

У Слонім я вярнуўся з калядных вакацый ўжо ў якасці члена групы. Мяне забяспечылі рэкамендацыйным лістом на імя слонімскага максімаліста Іосіфа Волаха, аднаго з заснавальнікаў слонімскай групы.

Я знайшоў яго на біржы. Прачытаўшы ліст, ён тут жа знішчыў яго з канспірацыі, пасля, распытаўшы мяне пра маю асобу, пра справы косаўскай групы, ён прызначыў мне сустрэчу і мы разышліся. Нашы сустрэчы, пры якіх Волах вёў са мной агітацыйныя гутаркі, працягваліся нядоўга, паколькі ён неўзабаве з'ехаў у Беласток. Праз нейкі час яго замяніла Марыя Талачынская і студэнт Казанскага ўніверсітэта Барыс Рабіновіч. Але пра гэта пазней.

Школьнае жыццё пайшло звычаным парадкам. Неяк раніцай у канцы сакавіка 1906 года ў нашым і суседніх класах на некаторых партах былі раскіданы невялікага фармату пракламацыі, выраблены на гектографе.** У іх утрымліваўся заклік да ўсіх вучняў далучыцца да рэвалюцыйных рабочых, да абароны палітычных свабод, а таксама і да барацьбы за нашы вучнёўскія правы і вольнасці. У гэтай справе вучні запрашаліся на рабочую біржу, каб сумесна з навучэнцамі іншых навучальных устаноў абмеркаваць усе набалелыя пытанні, скласці патрабаванні, якія мы павінны былі выставіць свайму начальству, і ў выпадку іх невыканання аб'явіць забастоўку. Пракламацыя заканчвалася воклічам: *"Няхай жыве рэвалюцыя! Няхай жыве свабодная школа! Далоў самаўладдзе!"*.

Адозва хутка распаўсюдзілася па ўсіх класах і дала падставу для самых разнастайных меркаванняў. Настрой быў узнёслы. Калі ў нашым класе з'явіўся настаўнік, адзін з таварышаў, як загадзя было дамоўлена, з нявінным выглядам падаў яму пракламацыю, якую ён падчас перамены "знайшоў" у сваёй парце. [Настаўнік] Лапа схапіў пракламацыю і, як варам абліты, кінуўся ў канцылярыю вучэльні да інспектара. Якая там адбывалася размова, невядома, але праз хвіліну ў клас уварваўся расчырванелы інспектар з пракламацыяй у руках і, падскочыўшы да бліжэйшага

вучня, схапіў яго за грудзі і стаў трэсці з усіх сіл:

*— Вы пойдзеце на сход?* — хрыпеў ён і, атрымаўшы адмоўны адказ, кідаўся да іншага.

*— Гэта вас "таварышы" заклікаюць на сход? Вы пойдзеце? — Не!* — лепятаў спалоханы і здзіўлены вучань, а інспектар ужо бег да наступнага. Так абышоў ён літаральна ўвесь клас і, пераканаўшыся, што вучні на сход не збіраюцца, са здзіўленнем працягваў:

*— Так каго ж яны лічаць "таварышамі"? На каго яны разлічваюць, калі вы ім не таварышы?!.. Бо вы ж на сход не пойдзеце? Не разумею,* — закончыў ён, паціскаючы плячыма. Сыходзячы з класа, ён прагаварыў сваю крылатую фразу.

*— Адным узмахам пяра зраблю няшчасным таго, хто асмеліцца пайсці на сход… З воўчым білетам!*

Вясной 1906 года ў нашым вучнёўскім, пераважна сацыял-дэмакратычным асяроддзі, з'явілася яшчэ некалькі эсэраў: Вацлаў Юшкевіч***, Лявон Дабраковіч і іншыя. Гэта было неўзабаве пасля гучнай маскоўскай экспрапрыяцыі таварыства ўзаемнага крэдыту, арганізаванай Уладзімірам Мазурыным.**** Гэтая экспрапрыяцыя зрабіла вялікае ўражанне на многіх з нас.

Прапагандысцкую і агітацыйную працу сярод народніцкай часткі моладзі праводзіла максімалістка Маня Талачынская. З добрай адукацыяй, начытаная, яна выдатна валодала рускай мовай, укладала шмат сіл, энергіі і здольнасцяў у справу праводжання максімалісцкай працы сярод моладзі. Амаль штодня пасля класных заняткаў яна чакала нас на біржы і не менш за 3-4 гадзіны праводзіла ў гутарцы з намі.

Частыя сустрэчы зблізілі нас і зрабілі сябрамі. Пасля майго ад'езду са Слоніма я некалькі гадоў падтрымліваў з Талачынскай самую жывую сувязь. Апошні раз мы сустрэліся восенню 1908 года перад маім ад'ездам у Сібір. З'язджаючы, я наведаў слонімскіх таварышаў. Здаецца, у тым жа годзе Талачынская эмігравала ў Амерыку з прычыны беспрацоўя. У Нью-Ёрку яна паступіла ў гімназію, якую паспяхова скончыла. Пра далейшы яе лёс я нічога не ведаю.

У канцы красавіка 1906 года ў Слоніме з'явіліся два сур'ёзныя работнікі-максімалісты: курсістка Фаня Вінаград і студэнт Казанскага ўніверсітэту Барыс Рабіновіч. Фаню я сустракаў на нелегальных сходах рабочай і вучнёўскай моладзі. Праз яе мы азнаёміліся з тады даволі рэдкімі максімалісцкімі выданнямі *"Вольный дискуссионный листок"****** і *"Коммуна"*, і некаторымі з брашур. Фаня ж азнаёміла нас з сутнасцю максімалізму. Аб ёй у мяне захаваліся ўспаміны, як аб тэарэтычна добра адукаванай работніцы.

Барыс Рабіновіч — тыповы работнік-масавік. Ён цэлымі днямі быў заняты партыйнай працай, а вольны час праводзіў на біржы, якая [у той час] знаходзілася на набярэжнай — дамбе Агінскага канала. У сваёй нязменнай студэнцкай фуражцы і форменнай тужурцы ён быў вельмі заўважны ў натоўпе рабочых. Ён то палемізаваў з бундаўцамі, то тлумачыў каму-небудзь незразумелае месца з прачытанай кнігі, то вёў гутарку ў вучнёўскім коле, то выступаў на партыйных сходах, то на масоўках. Паўсюль гаварыў пра характар рускай рэвалюцыі. Я памятаю дзясяткі яго выступаў на сходах і заўсёды яго прамовы адрозніваліся сур'ёзнасцю і лагічнасцю. Рабіновіча і Фаню Вінаград я апошні раз бачыў у канцы 1907 года.

●А. Левандоўскі

Працяг у наступным нумары

**Нелегальная эсэраўская газета. Выдавалася ў 1900 — 1905 гадах і ў Расійскай імперыі, і за мяжой.*

***Гектограф — капіравальны апарат, з дапамогай якога рабілася да 150 адбіткаў з адной матрыцы (рукапісу ці машынапісу).*

****Вацлаў Юшкевіч (1888 — 1918) — ураджэнец вёскі Багданавічы Слонімскага павета, з дваранскай сям'і. У Слонімскай гарадской вучэльні вучыўся ў 1902 — 1906 гадах. У гады Першай сусветнай вайны разам з братамі ваяваў у складзе рускай арміі, стаў афіцэрам. З 1917-га — бальшавік. Расстраляны белагвардзейцамі. Падрабязна пра яго: Памяць: гісторыка-дакументальная хроніка Слонімскага раёна. — Мінск, 2004. С. 156-157.*

*****Уладзімір Мазурын (1882 — 1906) — эсэр-максімаліст, тэрарыст. Згаданы налёт на банк адбыўся 7 сакавіка 1906 года. Была вынесена рэкордная для "экспрапрыяцый" сума — 875 тысяч рублёў.*

******У 1905 годзе газета выдавалася ў Парыжы.*

# Першая "Міс Слонім"



25 студзеня 1930 года слонімскае дабрачыннае "Таварыства Вінцэнта а Паола" (названае ў гонар каталіцкага святога, які жыў у XVI-XVII стагоддзях) зладзіла ў Народным доме забаўляльнае мерапрыемства. Уваход быў платны, таму яно спадзявалася папоўніць свой сціплы бюджэт. Як пісала газета "Навагрудскае жыццё", кульмінацыяй вечарыны, пасля танцаў, стала раздача двух узнагарод — за прыгажосць і за самую сціплую сукенку (касцюм). Зразумела што пераможцаў выбіралі сярод прысутных. Для гэтага стварылі "журы". Самая сціплая сукенка аказалася ў пані Ляўкевіч, а першай прыгажуняй прызналі Караліну Сабалеўскую. Прызы, відаць, былі сімвалічныя. Цікава, як прыгажуню абралі. Ёй не трэба было дэфіляваць па сцэне ў купальным касцюме. Караліне дастаткова было мець найбольш паштовак, якія арганізатары прадавалі па 30 грошаў за штуку. Яна іх і сама купіла, і атрымала ад прысутных кавалераў. Вось такі конкурс…

На гэтым гісторыя і скончылася б. Але "Навагрудскае жыццё" дало зацемцы "жоўты" загаловак — "Міс Слоніма". І передрукі паляцелі па старонках віленскіх ды варшаўскіх выданняў з самымі разнастайнымі каментарамі пра дзіўную імпрэзу "клерыкалаў". Так пра сланімчанку Сабалеўскую, як пра "Міс Слоніма", даведалася ўся Польшча… І давялося ваяводскай газеце


KRONIKA SŁONIMSKA

„Miss Słonim", a rzeczywistość

пісаць наступны матэрыял, у якім канстатаваўся факт: сталічныя газеты *"прадставілі ў фальшывым святле сутнасць справы"*, што здзівіла і абурыла слонімцаў.

Чаму так "зайшла" ў той час тэма з "міс"? Справа ў тым, што праз некалькі дзён пасля слонімскіх падзей у Варшаве выбіралі "Міс Польшчы" (гэта быў ужо другі такі конкурс, папярэдні прайшоў у 1929-м). Ёй стала прыгажуня з Львова Зоф'я Батыцка. І тут высвятляецца, што правінцыйны Слонім правёў такі конкурс раней за сталіцу. Скандал! І ніхто ўжо не разбіраўся пра "сутнасць справы".

●Генадзь Гурскі

*На здымку: Фіналісткі конкурсу "Міс Польшчы" і журы, 1930 год / ipsb.pl*

"Слонімскі край" — краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар
Сяргей Ёрш

Наш адрас:
slonimskikraj@gmail.com
Спасылка на "СК" пры передруку абавязковая.